# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 29 лістапада 1994 года

№ 128 (10828)

Цана 50 руб.

# ЗАЯВА

## Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб эканамічнай палітыцы

Кіраўніцтва краіны з моманту прыходу да ўлады распрацавала і няўхільна выконвае праграму неадкладных мер па выхаду эканомікі з крызісу. За кароткі час лібералізаваны знешні гандаль, цэны на большасць тавараў і паслуг, за выключэннем некалькіх пазіцый — хлеб, малако, камунальныя паслугі, — ліквідавана дацыраванне іх з бюджэту, аднолена кіруемасць бюджэтам (пры росце яго даходнай часткі ў першыя дзве дэкады лістапада на 179 працэнтаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года расходы бюджэту павялічыліся толькі на 102 працэнты, рэзка скарочана крэдытаванне дэфіцыту бюджэту — пры зацверджанай суме крэдытавання 170 млрд. рублёў выдадзена крэдытаў у размеры 50 млрд. рублёў), беларускі рубель прызнаны нацыянальнай валютай, стаўка рэфінансавання Нацыянальнага банка набліжана да рыначнай, практычна поўнасцю аплачваюцца бягучыя пастаўкі энерганосьбітаў з Расіі, зніжана запазычанасць заходнім крэдыторам, прыпынена накапленне даўгоў, нармалізуецца фінансавая дысцыпліна прадпрыемстваў праз больш жорсткія крэдытаванне і субсідзіраванне, уведзены жорсткія меры па энергазберажэнню.

Трэба разам з тым прызнаць, што ў рэфармаванні эканомікі дапушчана адставанне ў стварэнні рыначнага канкурэнтнага асяроддзя, прыватызацыі і дэманапалізацыі вытворчасці, далейшай лібералізацыі знешняга гандлю, увядзенні механізма банкрутства.

Лібералізацыя эканомікі павінна суправаджацца адэкватнымі мерамі сацыяльнай абароны насельніцтва. Аднак з-за таго, што ў пачатку лістапада лібералізацыя цэн не была скаардынавана з увядзеннем мер сацыяльнай абароны найменш забяспечаных груп насельніцтва, быў рэзка парушаны баланс паміж ростам цэн і даходамі грамадзян. Прэзідэнту прыйшлося прымаць сілай сваёй улады рашэнні аб некаторым рэгуляванні цэн на асобныя прадукты харчавання і сацыяльнай падтрымцы слаёў грамадства, якія найбольш ад гэтага пацярпелі.

У стратэгічным плане гэта ні ў якім разе не азначае адмаўлення ад прынцыпу свабоднага цэнаўтварэння як рыначнай асновы, на якой у краіне праводзяцца рэформы. Кабінету Міністраў даручана ўкараненне мер сацыяльнай абароны, арыентаванай выключна на найменш забяспечаныя слаі насельніцтва, праз адрасныя выплаты і дапамогі. Гэта дазволіць ужо ў снежні 1994 года вярнуцца да правядзення паслядоўнай палітыкі лібералізацыі цэн у адпаведнасці з раней прынятай праграмай.

Для пераадолення адставання ў асобных кірунках рэфармавання эканомікі мной дадзены адпаведныя даручэнні Кабінету Міністраў, якія забяспечваюць: паскарэнне прыватызацыі і акцыяніравання прадпрыемстваў; рэальную фінансавую падтрымку прадпрымальніцтва і ўвядзенне заяўленчага прынцыпу стварэння прыватных вытворчых прадпрыемстваў; спыненне ўмяшання ў цэнаўтварэнне, за выключэннем цэн на прадукцыю і паслугі натуральных манаполій; змяншэнне долі субсідзіравання кошту камунальных паслуг; навядзенне рэальнай фінансавай дысцыпліны на прадпрыемствах усіх форм уласнасці; стварэнне бюджэтнай сістэмы, якая забяспечвае зніжэнне падатковага прэса на вытворцаў прадукцыі і паслуг, стварэнне ім неабходных стымулаў для развіцця, скарачэнне неэфектыўных затрат з бюджэту; змяншэнне дэфіцыту плацежнага балансу за кошт стымулявання экспарту і скарачэння імпарту, зняцця абмежаванняў у знешнім гандлі; фарміраванне паўнацэннага рынку валют, заахвочванне замежных інвестыцый.

Адзначаныя падыходы ажыццяўлення эканамічнай рэформы з'яўляюцца стратэгічнымі напрамкамі развіцця рэспублікі, якія павінны знайсці сваё далейшае ўвасабленне ў сярэднетэрміновай эканамічнай праграме прэзідэнта і ўрада.

Прэзідэнт і ўрад, робячы неабходныя намаганні па стварэнню ў рамках канстытуцыйных патрабаванняў усяго комплексу прававога і арганізацыйнага забеспячэння праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі з крызісу і абавязацельстваў перад сусветным эканамічным супольніцтвам, выказваюць упэўненасць у падтрымцы сваёй практычнай дзейнасці ўсімі слаямі беларускага народа, палітычнымі партыямі, грамадскімі рухамі. Мы таксама разлічваем на дапамогу сусветнага эканамічнага супольніцтва, яго фінансавых інстытутаў, урадаў развітых краін і замежных прадпрымальніцкіх колаў у дасягненні пастаўленых мэт.

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь*
*А. ЛУКАШЭНКА.*

# ПОШУК ШЛЯХОЎ ЗГУРТАВАННЯ

***У Мінску адбылася трэцяя справаздачна-выбарная канферэнцыя абласной арганізацыі Партыі камуністаў Беларусі. У сталіцу рэспублікі прыехалі дэлегаты з усіх 22-х раёнаў вобласці, а таксама гарадоў Барысава, Жодзіна, Слуцка, Маладзечна. Сярод дэлегатаў — прадстаўнікі калгаснага сялянства, рабочых, інтэлігенцыі, жанчыны, моладзь, ветэраны вайны і працы.***

Са справаздачным дакладам «Аб праведзенай рабоце пасля другой справаздачна-выбарнай канферэнцыі і задачах абласной партыйнай арганізацыі» выступіў першы сакратар абласнога камітэта партыі, сакратар ЦК ПКБ В.М.Новікаў. Аналізуючы грамадска-палітычную сітуацыю ў рэспубліцы, ён, у прыватнасці, адзначыў, што большасць людзей губляюць перспектыву заўтрашняга дня. Ідзе расслаенне грамадства на багатых і бедных. Расце злачыннасць. Працягваюць дэградзіраваць навука, культура, адукацыя. І ўсё робіцца рукамі і розумам былой партнаменклатуры, тымі, хто калісь называў сябе не інакш як «вернымі ленінцамі». У свой час яны пераселі ў не менш цёплыя дэмакратычныя крэслы парламентарыяў і дзеячаў выканаўчай улады. Да ПКБ не маюць ніякага дачынення, але простыя людзі па інерцыі прылічваюць іх да камуністаў. А яны, як мёртвыя жывых, цягнуць на дно левыя сілы і робяць усё, каб не дазволіць ПКБ сказаць працоўнаму люду ўсю праўду аб тым, якіх бед яны натварылі за апошнія гады.

Аналізуючы дзейнасць партыйнай арганізацыі за справаздачны перыяд, В.М.Новікаў падкрэсліў, што няўдач тут, на жаль, больш, чым дадатных вынікаў. Марудна ідзе кансалідацыя левага спектра палітычных сіл Беларусі. Камуністы не змаглі распрацаваць праграму выхаду рэспублікі з крызісу. Работа іх фракцыі ў Вярхоўным Савеце практычна роўная нулю: іх голасу фактычна не чуваць.

Як адзначалі выступаўшыя ў спрэчках, абком, гаркомы і райкомы партыі ў справаздачны перыяд не ўсё зрабілі для выканання рашэнняў другога (аб'яднаўчага) з'езда ПКБ і другой справаздачна-выбарнай канферэнцыі абласной партарганізацыі, не дабіліся належнай арганізаванасці і дысцыпліны ў сваіх радах. Партыйныя арганізацыі не выкарыстоўваюць усіх магчымасцей для шырокай прапаганды тэарэтычных вывадаў і палітычных установак Праграмы ПКБ для выкрыцця згубнасці праведзеных у рэспубліцы буржуазна-дэмакратычных пераўтварэнняў.

У спрэчках выступілі 12 камуністаў. Па справаздачы першага сакратара абкома ПКБ прынята пастанова, якая нацэльвае партыйную арганізацыю вобласці на больш актыўную работу з моладдзю, з працоўнымі калектывамі. Канферэнцыя лічыць галоўнай палітычнай задачай пярвічных арганізацый вобласці на надыходзячы перыяд падрыхтоўку да выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і мясцовыя органы прадстаўнічай улады.

Канферэнцыя выбрала абласны камітэт партыі і рэвізійную камісію.

Адбыўся арганізацыйны пленум абкома партыі. Першым сакратаром абласнога камітэта ПКБ выбраны Валерый Пятровіч Ухналёў.

* * *

У гэты ж дзень адбылася трэцяя справаздачна-выбарная партыйная канферэнцыя Мінскай гарадской арганізацыі ПКБ. Першым сакратаром гарадской партарганізацыі выбраны Алег Паўлавіч Мазго.

*Іван КАВАЛЬ.*



# ЯКІМ ЖА БУДЗЕ БЮДЖЭТ

Праект Закона аб дзяржаўным бюджэце падрыхтаваны ўжо Кабінетам Міністраў, і цяпер яго абмяркоўваюць парламентарыі. Адбылося пасяджэнне Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета.

На сустрэчу з дэпутатамі прыйшлі намеснік міністра эканомікі Б.Макейчанка, выконваючы абавязкі міністра фінансаў М.Румас і старшыня Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі М.Дзямчук. Яны паведамілі, што асноўным пытаннем стала зацвярджэнне дэфіцыту бюджэту на ўзроўні 4-х працэнтаў ад унутранага валавога прадукту. Зыходзячы з гэтага паказчыка разлічваліся дынаміка росту цэн, вытворчыя параметры і нормы сацыяльнай абароны.

Паводле слоў Мікалая Румаса, расходная частка бюджэту складзе 14,4 трыльёна рублёў, тады як даходы — толькі 11,6 трыльёна. Зменшаць даход бюджэту на 4,7 трыльёна ў першую чаргу зніжэнне дэфіцыту і змяншэнне падаткаў. Пры гэтым у 1995 годзе захаваецца інфляцыя, таму што часткова дэфіцыт бюджэту будзе пакрыты крэдытнай эмісіяй. На гэтыя мэты Нацыянальны банк згадзіўся выпусціць 1,3 трыльёна «пустых грошай», што складае 2 працэнты ад валавога ўнутранага прадукту. Ва ўмовах інфляцыі на адрасную абарону маламаёмных грамадзян, а такіх па цяперашніх ацэнках 2 мільёны, прапануецца накіраваць 600 мільярдаў рублёў.

У тры разы скароцяцца бюджэтныя расходы на абаронную галіну, якой пры патрэбнасці 2 трыльёны рублёў будзе выдзелена толькі 700 мільярдаў. Затое на патрэбы па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы будзе затрачана 1,5 трыльёна рублёў. Значнай эканоміяй бюджэту з"явіцца практычна поўнае «замарожванне» капітальнага будаўніцтва. У той жа час Кабінет Міністраў гарантуе захаваць на ранейшым узроўні расходы на зарплату насельніцтву, стыпендыі, школьнае харчаванне і датацыі на медыкаменты.

15-працэнтнае змяншэнне даходнай часткі бюджэту ў наступным годзе выклікана новаўвядзеннямі Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Беларусі, якая распрацавала новае падатковае заканадаўства. Яно прадугледжвае некаторыя льготы для вытворчых прадпрыемстваў. Падатковая інспекцыя мае намер дабіцца ўзмацнення санкцый да «вулічнага гандлю». Акрамя таго, плануецца не браць падатак ад прыбытку, а браць падатак з выручкі.

*БЕЛІНФАРМ.*

**ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ**

■ Зарплата

# Все туже кошелек

### Но мало радости он нам приносит

Почему? — понятно. Нашу зарплату значительно обгоняют цены. Что же мы получаем сегодня?

На оплату труда работников, занятых в народном хозяйстве области (без кооперативов, малых и совместных предприятий), за январь-октябрь израсходовано 365,4 миллиарда рублей. Еще 42,8 миллиарда начислены в виде материальной помощи и социально-трудовых льгот. По сравнению с январем-октябрем прошлого года фонд оплаты труда увеличился в 14,6 раза.

Среднемесячная заработная плата составила 57,7 тысячи рублей. В том числе в октябре — 123,8 тысячи и выросла по сравнению с октябрем 1993 г. в 13,6 раза.

По размеру оплаты труда в октябре первенствуют предприятия и организации железнодорожного транспорта — у них 188,8 тысячи рублей. Затем идут строители — 181,7 тысячи, работники промышленности — 171,3, материально-технического снабжения и сбыта — 167,9, кредитования и страхования — 149,8, в том числе банковские — 149,1 тысячи рублей.

Значительно ниже среднеобластного показателя оплата труда работников непроизводственных видов бытового обслуживания населения — 67,2 тысячи рублей, культуры — 84,7, искусства — 86,4, науки и научного обслуживания — 87,7. Низкой остается она и у колхозников — 70,8 тысячи рублей.

*Валентина СКАВИНСКАЯ,*
*сотрудник облуправления статистики.*

# ДАПАМОГУЦЬ ЛІЧЫЛЬНІКІ?

Аб тым, што горад шахцёраў толькі на 50 працэнтаў забяспечаны вадой, мы паведамлялі ўжо. Як і аб тым, што ў час рабочага візіту ў Салігорск Прэзідэнт Беларусі абяцаў дапамагчы пракласці яшчэ адну нітку водаправода даўжынёй паўтара дзесятка кіламетраў.

Але ўсё гэта — перспектыва і, здаецца, не вельмі блізкая. А сёння некаторыя гараджане цэлымі ваннамі проста выліваюць ваду, якой на вышэйшых паверхах гадзінамі не могуць дачакацца. Таму камунальнікі і вырашылі ўлічваць расход вады. Ужо закуплена паўтысячы лічыльнікаў. Для набыцця наступнай партыі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі выдзеліла яшчэ 60 мільёнаў рублёў.

— Праўда, спецыялісты падлічылі, што лічыльнікі вады могуць акупіцца толькі праз многія гады. Да таго ж яны не вельмі надзейныя, іх часта трэба ачышчаць, — гаворыць кіраўнік Салігорскага вытворчага аб"яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі "Комплекс" Б.А.Крычмар. — Але мы проста вымушаны ўстанаўліваць іх. Для пачатку хаця б адзін на дом, каб хоць неяк наладзіць улік расходу вады.

Застаецца падключыць прыборы да сеткі. Ды вызначыць разумную цану за ваду, якая б стымулявала яе эканомію.

*(Наш кар.).*

■ Міласэрнасць

# ПАСЫЛКІ З-ЗА МЯЖЫ

Цесныя сувязі з асацыяцыяй вернікаў «Прамень надзеі» наладжаны ў Уздзенскім раёне. Прадстаўнікі гэтага евангелічнага аб"яднання неаднаразова бывалі тут з дабрачыннай акцыяй: прывозілі гуманітарную дапамогу ў выглядзе адзення, абутку, ахвяраваных замежнымі дабрадзеямі. Госці з гуманітарным грузам наведалі вёскі Ліцвяны, Макавішчы, швейную фабрыку. А нядаўна, дарэчы, другі раз, прыехалі яны ў раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

Чаму менавіта гэтыя адрасы выбралі дабрачынцы?

— Гарадскі пасёлак Узда — гэта мая маленькая радзіма, — гаворыць прадстаўніца асацыяцыі Алена Казіміраўна Васільева. — Часта бываю я тут і бачу, як цяжка сёння выжыць простым людзям. Дапамагаць жа абяздоленым, пакрыўджаным, маламаёмным — задача нашай арганізацыі.

Асацыяцыя бачыць свой хрысціянскі абавязак не толькі ў матэрыяльнай, а і ў духоўнай падтрымцы.

З такой дабрачыннай місіяй мы пабывалі ў многіх куточках рэспублікі.

Едзем туды, дзе нас чакаюць. Удзячныя мы галоўнаму санітарнаму ўрачу Уздзенскага раёна А.А.Андросіку, які прадаставіў нам памяшканне і працягнуў руку сяброўства.

Па-рознаму ставяцца сёння людзі да гуманітарнай дапамогі, якая ідзе «з-за бугра». Адны шпарка шукаюць у тых пасылках модныя фірменныя рэчы, другія катэгарычныя ў тым, што чужыя падачкі нам не патрэбны, трэція вымушаны браць тое, што даюць, бо новае, нават айчыннае, няма за што купіць. Як выказалася Алена Казіміраўна Васільева, усе мы супраць волі сваёй аказаліся ў спісах маламаёмных. І з ёю нельга не пагадзіцца.

Дык не збяднее рука тых, хто дае.

*Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ.*

# ПАНУЕ ДУХ ТВОРЧАСЦІ

На сваім пасяджэнні Дзяржынскі гарвыканком абмеркаваў пытанне «Аб рабоце кіраўніцтва школы мастацтваў па эстэтычнаму выхаванню моладзі ў святле патрабаванняў 14-й сесіі гарадскога Савета »Аб асноўных напрамках маладзёжнай палітыкі". Дырэктар школы А.В.Гірэль паведаміў, што ў навучальнай установе працуюць тры аддзяленні, а выкладаюць тут 36 спецыялістаў. Дзякуючы высокаму прафесійнаму ўзроўню педагогаў, добрай матэрыяльна-тэхнічнай базе ў мінулым навучальным годзе выхаванцы дабіліся нядрэнных вынікаў. Хор заваяваў трэцяе месца ў вобласці, фальклорны ансамбль — другое месца ў рэспубліканскім свяце «Сымон-музыка». Вучні мастацкага аддзялення былі пераможцамі міжнародных выстаўконкурсаў.

У сваім рашэнні гарвыканком адзначыў, што калектыву школы мастацтваў трэба папулярызаваць нацыянальнае мастацтва, павышаць эфектыўнасць навучальнага і выхаваўчага працэсу.

# ХТО КУПІЦЬ БЕЛАРУСКІ ДОМ ДРУКУ?

«Мы вымушаны канстатаваць, што пры цяперашняй эканамічнай сітуацыі ўрад не зможа фінансаваць паліграфію», — сказаў на сустрэчы з журналістамі генеральны дырэктар выдавецтва «Беларускі Дом друку» Барыс Кутавой.

Яшчэ некалькі гадоў назад абсталяванне, якім карысталіся беларускія паліграфісты, давала магчымасць вырабляць прадукцыю высокай якасці, у тым ліку і тую, якая ідзе на экспарт. Парк друкарскага і пераплётна-брашуровачнага абсталявання катастрафічна старэе. Са 165 друкарскіх афсетных машын, якія знаходзяцца ў эксплуатацыі, у 39 прайшоў ужо тэрмін амартызацыі, а ў 33-х ён заканчваецца ў бліжэйшыя паўтара года. І, як вынік, з кожным годам будзе няўхільна зніжацца і ўзровень друкаваных вырабаў (гэта датычыць як кніжнай прадукцыі, так і перыядычнага друку). А гэта азначае, што рынак, які прыносіць прыбытак, у тым ліку і валюту, будзе незваротна для рэспублікі страчаны.

На думку Барыса Кутавога, у перыяд мяркуемай «вялікай прыватызацыі» значная доля акцый можа апынуцца ў руках пабочных інвестараў, для якіх інтарэсы Беларусі не маюць істотнага значэння. Аднак нельга такі гігант развальваць, а захаваць неабходна. Шанц заняць трывалыя пазіцыі, лічыць галоўны паліграфіст рэспублікі, дасць спецыялізаваны інвестыцыйны фонд «Стабільнасць», які аб"яднаў вядучыя прадпрыемствы галіны. «Укладванне сродкаў у паліграфію заўсёды давала станоўчыя вынікі, — падкрэсліў дырэктар выдавецтва, — важна, каб інвестарамі сталі грамадзяне Беларусі».

*БЕЛІНФАРМ.*

**Валожынскія навіны**

## 16 ПАРАСЯТ — НІШТО... У ПАРАЎНАННІ З ТЭЛЕВІЗАРАМ

Такога прадстаўнічага журналісцкага дэсанту ў калгасе «Бальшавік» не памятаюць. Пятнаццаць супрацоўнікаў Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі нядаўна завіталі ў гэтую гаспадарку. Мэта іх прыезду — сацыялагічнае даследаванне на прадмет найбольш папулярнай у сельскіх жыхароў перадачы.

Праходзіла сустрэча ў цэнтральнай вёсцы калгаса, у Пугачоўскім сельскім Доме культуры. Сталічныя журналісты пачулі ад людзей розных узростаў і прафесій аб"ектыўныя водгукі аб перадачах. Асаблівай актыўнасцю вызначаліся настаўнікі і старшакласнікі мясцовай сярэдняй школы, спецыялісты гаспадаркі. Так што работнікам эфіру нескладана было зарыентавацца ў рознагалоссі думак, меркаванняў і вызначыць перадачы, якія заваявалі найбольшую прыхільнасць у вясковых гледачоў, радыёслухачоў.

Але паспрабуй сёння на сціплую зарплату калгасніка купіць каляровы тэлевізар! Да жнівеньскай дэнамінацыі рубля ён каштаваў звыш 7 мільёнаў рублёў. А таму тэлежурналісты з Мінска змаглі толькі паспачуваць механізатару калгаса Аляксею Ігнатавічу Сасноўскаму, якому так і не ўдалося сабраць грошы на дарагую пакупку. Каб папоўніць сямейны бюджэт, ён месяц працаваў на збожжаўборачным камбайне, прадаў ажно 16 парасят, але тэлевізар так і застаўся недасягальнай марай. Так што, дзякуй Богу, надарылася магчымасць з журналістамі пазнаёміцца ўвачавідкі, пачуць жывы голас дыктара Зінаіды Бандарэнка хоць са сцэны сельскай установы культуры...

Эмацыянальным заключным акордам гэтага мерапрыемства стала выступленне вядомага ў рэспубліцы ансамбля «Бяседа», які працуе пры Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Прычым калегі Якава Навуменкі — вядучага саліста ансамбля — далі вяскоўцам канцэрт бясплатна.

## УЛАСНЫ ПЧАЛЬНІК РАЙАГРАПРАМТЭХНІКІ

Дарагія цяпер сталі лекі, ды і не заўсёды патрэбныя медыкаменты бываюць у аптэках, у перыферыйных — тым больш. Выйсце адно — лячыцца народнымі сродкамі.

Не палохаюць прастудныя захворванні работнікаў мясцовай райаграпрамтэхнікі, бо кожны, хто працуе на гэтым прадпрыемстве, зрабіў на зіму запас духмянага мядку. Каля шасці тысяч рублёў каштаваў кожны кілаграм.

Набыць мёд з пчалапасекі райаграпрамтэхнікі было нямала жадаючых. Каб поўнасцю задаволіць іх попыт, папоўнілі запасы мёду за кошт дадатковых закупак. Уласны пчальнік прадпрыемства сёлета даў неблагі першы медазбор. Налічвае пасека пакуль што 15 вулляў. Але яна трымае арыенцір на расшырэнне.

## БЫВАЙ, РАДЫЁЛІНІЯ!

Відаць, праваднное радыё ў сельскай мясцовасці дажывае свой век. Рэканструкцыя існуючых ліній такіх перадач патрабуе вялікіх капітальных укладанняў. А раённы вузел сувязі, як і большасць суб"ектаў гаспадарання, сёння не ў стане ісці на значныя фінансавыя затраты. Рынак бярэ сваё!

Невыпадкова сувязісты раёна выбралі іншы шлях данясення да слухачоў радыёінфармацыі: яны закупілі сучасныя шматпраграмныя прыёмнікі і цяпер прапануюць сваім абанентам зрабіць у кватэру новы набытак.

На гэты крок рашаюцца пераважна толькі жыхары тых населеных пунктаў, дзе рэанімаваць лінію перадач ужо немагчыма. 300 сучасных прыёмнікаў завезлі для рэалізацыі насельніцтву сувязісты. «Шматпраграмнікі» прыйшліся даспадобы жыхарам вёсак Подбераззь, Пугачы, Гіравічы і інш. За такую пакупку кожнаму абаненту давялося заплаціць 12 тысяч рублёў. Многім жа пажылым людзям скупы сямейны бюджэт не дазваляе купіць такую дарагую і разам з тым вельмі неабходную рэч.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

**Происшествие**

# БЛЕСК И НИЩЕТА РЕАЛЬНОСТИ

***Страшно. Лишнее напоминание о бренности нашего существования. Одинокий остов крестьянской печи, обгоревшие бревна и то, что осталось от троих мужчин, нашедших могилу в разбушевавшемся огне. Пожарные деловито снуют по пожарищу. Им не привыкать. А мне становится плохо от вида того, что когда-то называлось людьми.***

Установить идентичность жертв на первых порах не представляется возможным. Предположительно, их было пятеро. Где же двое? Под грудой кирпичей и обгоревших бревен или счастливчикам удалось избежать трагической участи? Кто обгоревшие останки? В халупе, примостившейся в тени шикарных коттеджей, был негласный хозяин, сожитель женщины, отбывающей наказание в местах не столь отдаленных. С ним в ту ночь пировали еще мужчины, согреваясь спиртным и самодельными отопительными устройствами. Старенькая избушка вспыхнула, как свеча, около трех часов ночи. Останки людей были найдены в разных углах дома. Один из мужчин, наверное, пытался дотянуться к двери. Не смог. Так и остался лежать около порога или, вернее сказать, все то, что когда-то называлось человеком, — кость и сморщенный череп.

Прохудившийся сарайчик и серый ленивый кот, взирающий на нас с ленцой. Рядом — такой же убогий домишко. Старушка, отволновавшись за ночь за свое жилье, словоохотлива. Да, соседи, царство им небесное, были шумные, милиция к ним частенько наведывалась. Летом отбоя от них не было, все в огороде уничтожали на корню — закусывать было нужно чем-то. Промышляли на жизнь строительством шикарных дач, которые в Колодищах вытеснили старенькие, дышащие на ладан халупы. Пришли новые хозяева жизни, и старожилы уже не с завистью, а обреченно вглядываются в архитектурные памятники, которые, словно грибы после дождя, растут вокруг. Временщики-строители, которые обитали в сгоревшем доме, ожидали платы за свою работу. А может, они получили деньги и отмечали сие событие? И что произошло в ту ночь? Рядовая попойка или криминальный сюжет? Ответит следствие, люди, которые по долгу службы будут скрупулезно анализировать мельчайшие детали, чтобы слить их воедино. Во всяком случае, пожарным, милиции безработица не грозит. Пока общество безудержно катится вниз, пока кривая происшествий стремительно рвется вверх.

Вот и в Молодечно жертвами огня стали трое детей. Отец — в тюрьме, мать вкушает «прелести» жизни, а несмышленыши предоставлены сами себе. Корка хлеба — награда, а финал кратковременной жизни — страшен.

...Падал редкий снежок. Дымилось пепелище. И люди тихо, безмолвно покидали место происшествия, а за ними плелись рыжие собаки. Одной масти, с голодными глазами. Одна из них с громким лаем все норовила броситься под колеса нашей автомашины. «Жизнь хуже собачьей», — изрек кто-то у меня за спиной. Все замолчали, провожая глазами шикарный дворец, обнесенный узорчатым бетонным забором, удивительнейшим образом напоминающий мавзолей на кладбище. Шедевр помпезности и духовной опустошенности.

*Ирина АНДРЕЕВА.*

*А.М.Рубанік:*

# СПАДЗЯЮСЯ НА ВЫТРЫМКУ ЛЮДЗЕЙ...

**Глыбокі сацыяльна-эканамічны крызіс, у якім апынулася Рэспубліка Беларусь, не абмінуў і Клецкі раён. Аб гэтым пойдзе размова ў інтэрв"ю, якое даў нашаму няштатнаму карэспандэнту старшыня раённага Савета дэпутатаў Анатоль Мікалаевіч РУБАНІК.**



***— Анатоль Мікалаевіч, праблем у раёне шмат, і расказаць аб іх у кароткім інтэрв"ю, вядома, немагчыма. Спынімся на асноўных. Скажыце, калі ласка, у якім становішчы знаходзіцца сёння сельская гаспадарка?***

— У даволі цяжкім. Сёлета мы сабралі ніжэй мінулагодняга з кожнага гектара па 10 цэнтнераў збожжавых, 88 цэнтнераў бульбы, 105 цэнтнераў цукровых буракоў, 195 цэнтнераў караняплодаў. Атрымалі на 4,5 цэнтнера кармавых адзінак менш на ўмоўную галаву жывёлы. Нарыхтавалі на 22 працэнты менш кармоў у параўнанні з 1993 годам. І як вынік, працягваецца спад вытворчасці малака і мяса. За дзевяць месяцаў бягучага года ў гаспадарках раёна колькасць буйной рагатай жывёлы скарацілася на 2,4 тысячы галоў, на 1,2 тысячы — свіней. Калгасы і саўгасы трапілі ў вельмі складанае фінансавае становішча. З аднаго боку, яны не атрымліваюць своечасова грошы за сваю прадукцыю, з другога — самі не могуць разлічыцца з банкам за крэдыты. Цэны няспынна растуць, а павысіць заработную плату магчымасці няма: новых крэдытаў банк не дае.

Востра стаіць праблема занятасці сельскага насельніцтва. Не толькі паляводы, але нават і механізатары цяпер не маюць работы. З-за адсутнасці гаруча-змазачных матэрыялаў машынна-трактарны парк практычна бяздзейнічае.

***— Дзе ж выйсце? Няўжо яго няма?***

— Без значнай дапамогі дзяржавы самі гаспадаркі з гэтай ямы не выберуцца. Аднак, на жаль, на прэс-канферэнцыі, якая нядаўна адбылася ў Мінску, ні намеснік прэм"ер-міністра рэспублікі У.Г.Гаркун, ні міністры, якія там выступалі, ні слова не сказалі аб тым, што плануе зрабіць урад, каб калгасы і саўгасы змаглі адрамантаваць тэхніку, вывезці на палі арганіку, купіць мінеральныя ўгнаенні і сродкі аховы раслін.

***— Нярэдка можна пачуць выказванні, што калгасы сябе зжылі і іх трэба распусціць. Як вы ставіцеся да такіх прапаноў?***

— Калгасы не распускаць трэба, а рэарганізоўваць. І першым крокам, я лічу, павінен быць перавод усіх структурных падраздзяленняў на поўны гаспадарчы разлік і арэнду з далейшым стварэннем акцыянерных таварыстваў, асацыяцый і магчымым змяненнем форм уласнасці на зямлю і сродкі вытворчасці: маецца на ўвазе іх выкуп працаўнікамі, якія зарэкамендавалі сябе руплівымі гаспадарамі.

***— Ці не ўзнікне тады небяспека паяўлення новых памешчыкаў, кулакоў і батракоў? Каб часам зноў не пачалася класавая барацьба...***

— Я ж падкрэсліў, што зямлю трэба прадаваць сумленным працаўнікам, а не якім-небудзь утрыманцам. Неабходна прыняць такія законы, якія б іх абаранялі. Што тычыцца людзей, якія па ўзросту або стану здароўя не могуць працаваць на зямлі, то аб іх павінна паклапаціцца дзяржава, выкупіўшы іх надзелы за значную суму. Такім чынам дзяржава зможа не дапусціць паяўлення новых памешчыкаў, кулакоў і батракоў.

***— Анатоль Мікалаевіч, давайце цяпер звернемся да праблем прамысловых прадпрыемстваў.***

— І тут іх не менш. Аб"ём прамысловай вытворчасці скарачаецца. Тэмпы яе развіцця падаюць. Не хапае сыравіны. Няспынна растуць неплацяжы спажыўцоў. Так, напрыклад, на кансервавым заводзе яны складаюць каля мільярда рублёў, на камбікормавым — каля 800 мільёнаў, на мэблевай фабрыцы — звыш 300 мільёнаў. Сваю прадукцыю прадпрыемствы адпусцілі без папярэдняй аплаты і на працягу некалькіх месяцаў не атрымліваюць за яе грошай. І вось вынік: няма сродкаў на зарплату, для набыцця сыравіны, разлікаў за энерганосьбіты і падаткі. Атрымліваецца замкнутае кола.

Вялікія цяжкасці са збытам гатовай прадукцыі. Яны яшчэ больш узраслі ў сувязі з Указам Прэзідэнта, якім забараняецца прадаваць прадукцыю тым структурам, дзе няма сваёй гандлёвай сеткі.

Не ўсё гладка ў нас і з якасцю тавараў. Каб яны сталі канкурэнтаздольнымі, патрэбна тэхнічнае пераўзбраенне прадпрыемстваў, і без доўгатэрміновых крэдытаў пад канкрэтныя праграмы тут не абысціся. Не хапае ў нас ініцыятыўных кіраўнікоў, якія шукаюць і знаходзяць рынкі збыту не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

***— Ці робяць якія-небудзь захады кіраўнікі прадпрыемстваў, працоўныя калектывы, каб выжыць у такіх складаных умовах?***

— Вядома, яны не сядзяць склаўшы рукі. Заключаюць бартэрныя пагадненні і завозяць неабходную сыравіну. Адкрываюць фірменныя магазіны для збыту сваёй прадукцыі. Шукаюць плацежаздольных кліентаў.

***— Цяпер адносна сацыяльнай сферы. Нягледзячы на высокія цэны ў магазінах раёна адсутнічаюць абутак, адзенне, іншыя тавары першай неабходнасці. У чым прычына?***

— У райспажыўсаюзе склалася надзвычай цяжкае фінансавае становішча. Яго крэдыторская запазычанасць — 2,5 мільярда рублёў. Райспажыўсаюз можа завозіць тавараў на такую суму, якую ён выручыў ад папярэдняй рэалізацыі, а гэта не больш як 70 мільёнаў рублёў у дзень. Калі адмінусаваць грошы, якія патрэбны на прадукты харчавання, то на прамысловыя тавары застаецца дробязь. Не разлічыўшыся з банкам за выдзеленыя крэдыты, новых не атрымаеш.

***— Калі я вас правільна зразумеў, райспажыўсаюз стаіць на парозе банкруцтва. Што ж рабіць?***

— На мой погляд, трэба многае мяняць у самой сістэме спажыўкааперацыі. Я маю на ўвазе змяненне вытворчых адносін паміж суб"ектамі гаспадарання. Сёння атрымліваецца так, што той, хто добра працуе, трымае на сваёй шыі гультаёў. Падобная ўраўнілаўка ніколі не прыносіла карысці і з"яўлялася тормазам прагрэсу.

Спажыўкааперацыя створана на сродкі пайшчыкаў, і яны самі павінны думаць, як лепш імі распарадзіцца. Можна і, на маю думку, трэба ісці на закрытую прыватызацыю ўнутры самой сістэмы.

***— Як насельніцтва раёна забяспечана паліўам?***

— Гэтая праблема ў нас вырашаецца. Палівам забяспечаны як установы адукацыі, аховы здароўя, культуры, гандлю і бытавога абслугоўвання, так і насельніцтва, якому на датацыі для рэалізацыі паліва па фіксаваных цэнах выдзелена з бюджэту за 10 месяцаў бягучага года 381 мільён рублёў.

Хачу толькі звярнуць увагу на эканомны расход паліўных рэсурсаў, бо іх становіцца ўсё менш, а цэны растуць.

***— І апошняе пытанне. Ці верыце вы ў лепшы заўтрашні дзень?***

— Я — аптыміст. Упэўнены, што наша рэспубліка выберацца з тупіка. Спадзяюся на вытрымку людзей, на добрыя намеры і арганізатарскія здольнасці нашых дзяржаўных кіраўнікоў.

Беларусы заслугоўваюць таго, каб жыць цывілізавана, пачалавечы.

*Гутарыў Аляксандр ЖУКОЎСКІ.*

# ГРОШЫ — У БАНКІРАЎ,

## а давер да банкіраў — у народа

Намеснік старшыні абласнога вытворчага аб'яднання «Мінскплодагароднінагас» В.І.Лыганоўскі ўжо некалькі хвілін гутарыў па тэлефоне. Субяседнік, па ўсёй верагоднасці, быў важнай асобай, і Васіль Іванавіч цярпліва даводзіў яму:

— Зразумейце, што без сённяшніх крэдытаў вясной агародніцкім гаспадаркам не будзе чаго рабіць...

Нарэшце трубка легла на рычагі апарата, і Лыганоўскі дазволіў сабе некаторую эмацыянальную свабоду:

— Калі кіраўнікі ўрада і банкаў зразумеюць, што так рабіць нельга?! Пры такіх падыходах загіне галіна.

Неўзабаве гаворка зноў вярнулася да ранейшай тэмы, і Васіль Іванавіч адказваў на пытанні, даваў тлумачэнні. Калі мы гатовы былі развітацца, я ўсё ж не ўстрымаўся:

—- Для чаго патрэбны крэдыты? Што жадаеце набыць, калі не сакрэт?

— Ды ніякага сакрэту няма. Проста думаем пра заўтрашні дзень. Настане вясна, і нам спатрэбіцца не менш як 50 тон цыбулі-сяўка, насенне цяплічных агуркоў, памідораў, іншай агародніны, якое ў нашых умовах недастаткова добра выспявае. Яго неабходна набыць ужо цяпер, бо калі дацягнем да сакавіка, давядзецца плаціць удвая ці ўтрая даражэй...

Ён на хвіліну замоўк, а потым дадаў:

— Просім жа крэдыт не для дробязнай справы: народ трэба будзе карміць і ў наступным годзе...

Кіраўніцтва аб'яднання ўжо звярталася са сваім пытаннем у Аграпрамбанк рэспублікі, урадавыя органы.

— Спярша як быццам абяцалі, — працягваў Васіль Іванавіч. — Праўда, ажно пад 300 працэнтаў гадавых. Мы ў прынцыпе згодны былі і на такі працэнт. Але на справе і гэтага няма.

300 працэнтаў гадавых... Давайце памяркуем, што значаць яны для нас, пакупнікоў агародніны. Набытае аб'яднаннем насенне пасля выплаты крэдыту і гэтых грабежніцкіх працэнтаў становіцца фактычна ў тры разы даражэйшае за першапачатковую цану. А калі ўрад і банкіры вымусяць аб'яднанне па «трайной цане» набываць мінеральныя ўгнаенні, сродкі аховы раслін ад хвароб і шкоднікаў?!. Усе ж гэтыя сродкі ў наступным годзе лягуць на сабекошт агародніны. Значыць, ужо сёння праектуецца шматразовы рост цэн на яе. Але ж каму гэта выгадна? Хто не можа абысціся без такіх «касмічных» працэнтаў?..

— І сённяшнія беды аб'яднання праблемай набыцця насення не вычэрпваюцца, — працягваў Васіль Іванавіч. — Мы некалі ганарыліся такімі гаспадаркамі, як Ждановіцкі цяплічны камбінат, калгас імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна, саўгас «Азёрны» Мінскага, дзе літаральна дзесяткі гектараў грунту схавана пад шклом і круглы год можна атрымліваць свежую агародніну. Сёння цяпліцы застаюцца фактычна без цяпла. А гэта ж — пагібель не толькі для таго, што там паспела вырасці, але і для саміх цяпліц, якія, па даперабудовачных цэнах, каштуюць дзесяткі мільёнаў рублёў. Дарэчы, у аб'яднанні 7 гаспадарак, якія маюць такія цяпліцы. Яны, гэтыя фабрыкі агародніны, для нас сталі ўжо непатрэбныя?..

А ў цяпліцах, сапраўды, бяда. Прыціснуў першы кастрычніцкі марозік, і ў саўгасе «Азёрны», напрыклад, другі раз за сёлетні год, памерзлі агуркі, якія ўжо далі завязь пладоў. Яшчэ тыдзень-паўтара — і можна было б збіраць ураджай.

Хто вінаваты ў гэтым бедстве? Дырэктар гаспадаркі? Можа, і так. Але ж паўстае і такое пытанне: для чаго ў нас існуе ўрад? Толькі для таго, каб збіраць падаткі, ездзіць па замежных краінах ды даваць журналістам інтэрв'ю?.. Мабыць, не. Мабыць, і іх галовы, разам з дырэктарскай, павінны балець, каб не замерзла ў цяпліцах агародніна, каб было чым засеяць вясною калгасныя і саўгасныя агароды. Бо, аддаўшы ўсё на водкуп рыначнай стыхіі, ці не занадта лёгкае (панскае) жыццё будуюць сабе дзяржаўныя функцыянеры?

*Іван АБАБУРКА, аглядальнік "Мінскай праўды".*

■ Окно ГАИ

# ЦЕНА БЕСПЕЧНОСТИ

Только за сентябрь-октябрь из 324 зарегистрированных в госавтоинспекции аварий в 162 (каждой второй) под колесами транспортных средств оказались пешеходы и велосипедисты, иногда по 2—3 человека в одном ДТП. Из 168 пострадавших 38 человек погибли и 130 с различными травмами были направлены на излечение.

На обострение обстановки повлиял целый ряд факторов. Так, экономическая нестабильность, проблемы с энергоносителями, повышение стоимости автомобиля и комплектующих деталей к нему стали причиной увеличения армии пеших участников дорожного движения и велосипедистов. Особенно это сказалось на жителях сельской местности. И те же пешеходы при переходе проезжей части или в пути следования по шоссе, зачастую находясь в нетрезвом состоянии, относятся с явным пренебрежением к элементарным нормам личной безопасности.

Не предполагал водитель ПМК-42 А.Л.Дубовик, что 28 октября для него будет "черным" днем и после работы перед ним откроется дверь не родного дома, а палаты Минской областной клинической больницы. Для 30-летнего водителя-профессионала, который, бесспорно, знал о правилах дорожного движения не понаслышке, несчастье произошло совершенно неожиданно. На ул.Советской г.Заславля нетрезвый пешеход, потеряв равновесие, упал на проезжую часть под заднее колесо проходящего автобуса ЛАЗ-695. Теперь у пострадавшего достаточно времени для соответствующих размышлений и выводов.

Забыл в этот день, что автомобиль нельзя остановить в одно мгновение, и рабочий колхоза "Путь коммунизма" Мядельского района П.С.Щамель. После употребления спиртных напитков он вышел к автобусной остановке "Занарочь" и выбежал на проезжую часть перед близко идущим ВАЗ-2106. Водителю автомашины не удалось избежать наезда, в результате чего безответственность обернулась для пешехода тяжелой травмой головы.

На состоянии аварийности в осенние месяцы сказываются неблагоприятные погодные условия, раннее наступление сумерек и темноты. Практически 70 процентов всех зафиксированных автонаездов произошли с 17 до 23 часов и, как правило, по вине все тех же пешеходов и велосипедистов.

Аналогичное положение на дорогах области наблюдается и нынче. 2 ноября на 288-м километре шоссе Минск—Брест в Столбцовском районе автомашиной "Шкода" был сбит пенсионер И.А.Пузиновский, который, выезжая на велосипеде со второстепенной дороги, не уступил легковому автомобилю преимущество в движении. Из-за допущенной ошибки в столкновении с автомобилем велосипедист погиб.

3 ноября в 17 часов в г.Молодечно "Жигулями" травмирован пешеход, который в нетрезвом состоянии переходил проезжую часть на запрещающий сигнал светофора.

Спустя час у дер.Красное Молодечненского района вновь "ЧП". 33-летний О.А.Шеленговский в состоянии алкогольного опьянения шел по краю проезжей части попутно транспорту и был сбит легковой автомашиной. С травмой головы и переломом ноги он госпитализирован.

Ежедневно, перечитывая "жестокую хронику" минувших суток, приходишь к выводу, что многих бед можно было избежать, если бы пешеходы и велосипедисты выполняли простые правила. Вне населенных пунктов пешеходы обязаны идти по обочине или по краю проезжей части навстречу транспорту и пересекать дорогу, убедившись в личной безопасности, по пешеходному переходу, а при его отсутствии — на перекрестках по линии тротуаров, обочин, в том числе под прямым углом на участках дороги, где она хорошо просматривается в обе стороны. Велосипедистам же разрешается следовать по проезжей части не далее одного метра от обочины. Обе категории участников движения во время нахождения на автодороге в темное время суток или в условиях недостаточной видимости по возможности должны обозначать себя световозвращающими элементами, которые позволили бы водителям своевременно заметить их в свете фар.

К сожалению, эти азы дорожной азбуки, которые знакомы каждому из нас со школы, игнорируются. Со своей стороны работники госавтоинспекции прилагают все силы, чтобы предотвратить трагедию, но на деле они одиноки в этом стремлении: на каждый перекресток или километр милиционера не поставить, а пешеходам недосуг подумать, к чему может привести их беспечность.

Такое положение дел тревожит и пугает. Ведь цена беспечности, расхлябанности и бескультурья наивысшая — человеческая жизнь! Полагаю, пришло время каждому из участников дорожного движения, отправляясь в путь, помнить, что его возвращения с нетерпением ждут дома родные и близкие.

*Сергей ШОСТАК, сотрудник ГАИ УВД Миноблисполкома.*

# НЕ СПАСЫЛАЮЦЦА НА ЦЯЖКАСЦІ

У калгасе імя Фалько Дзяржынскага раёна грунтоўна паклапаціліся аб стварэнні неабходнага запасу кармоў на стойлавы перыяд для жывёлы. Позняй восенню запас папоўніўся за кошт кармавых караняплодаў. Нягледзячы на сёлетнюю спёку, ураджай вырашчаны нядрэнны. Асобныя ўчасткі далі па 300 цэнтнераў каранёў. Для жывёлы назапашана каля 2 тысяч тон каштоўнага корму.

Падрыхтавалі тут да зімы і жывёлагадоўчыя памяшканні. Усе яны ўцеплены, адрамантаваны стойлы, дзверы, зашклёны вокны. У поўнай гатоўнасці кармацэхі, механізмы для раздачы кармоў, выдалення гною. Словам, фалькоўцы не спасылаюцца на эканамічныя цяжкасці, а робяць усё, каб і зімой былі высокія надоі і прывагі.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

# ТРЕВОГА!

Славянский Собор «Белая Русь» направил президенту республики и Верховному Совету письмо, в котором выражает тревогу по поводу недавнего заявления спикера Мечислава Гриба. Он недвусмысленно высказался за присоединение Республики Беларусь к натовской программе «Партнерство ради мира».

Подобный политический шаг был бы не чем иным, как провозглашением курса на подрыв подлинной независимости Беларуси, ее национальной безопасности, осложнением отношений с братской Россией, а также предательством интересов мужественного сербского народа, принявшего на себя удар «мирового сообщества», орудием которого и является НАТО.

*(Наш корр.).*

■ Ведай нашых!

# ПАРТЫЯМІ НЯХАЙ ПАЛІТЫКІ ЗАЙМАЮЦЦА. А ЁН ВЫРОШЧВАЕ ГРЭЧКУ

**Леанід Сцяпанавіч развозіў грэчку сам. Калі аддаваў чарговы мяшочак старым ці мнагадзетным, тыя войкалі:**

**— Такі дэфіцыт! І колькі ж заплаціць трэба?**

**— Нікольκі. Гэта падарунак ад нашай фермерскай гаспадаркі "Прагрэс".**

**Не выслухоўваючы да канца шчырых, мнагаслоўных падзяк, Леанід Сцяпанавіч спяшаўся ў наступную кватэру. Такім чынам раздаў малазабяспечаным больш за тры цэнтнеры грэчкі. Душа поўнілася ўпэўненасцю, спакоем, ціхай радасцю. Нарэшце і ён мае магчымасць уласнымі рукамі зрабіць людзям прыемнае, добрае.**

Хто такі Л.С.Пархімовіч? У Старых Дарогах адны скажуць: "Добры настаўнік фізкультуры — навучэнцы СШ № 2 яго любілі". Другія запярэчаць: "Не, ён наш брат, тэхнар — слесарам, токарам працаваў, да галоўнага механіка раённага камбіната бытавога абслугоўвання даслужыўся". Трэція катэгарычна заявяць: "Дык Сцяпанавіч жа кіраўнік, арганізатар ад бога!"

Сапраўды, Л.С.Пархімовіч паспытаў рознага хлеба, пакуль знайшоў свой — стаў заснавальнікам, кіраўніком фермерскай гаспадаркі "Прагрэс". Да гэтага, каб паўней рэалізаваць сябе, нават у партыю ўступаў, грамадскія даручэнні выконваў. Не атрымалася — выйшаў.

— Цяпер партый — вялікі выбар, — гавару. — Ці не думаеце ўступаць па-новаму? Вам жа толькі 35 гадоў.

— Не, — адказвае Леанід Сцяпанавіч. — Партыямі няхай палітыкі займаюцца. У мяне без таго работы многа. І даволі важнай, цікавай.

Так, паспрабуй дагледзь 35 гектараў, з якіх 31 — ворыва, што выдзелена "Прагрэсу" каля вёскі Дабрынка. Апрацуй не абы-як, а з душою. Інакш не дасягнеш адных з самых высокіх у раёне ўраджаяў ячменю, грэчкі, бульбы. Такіх, як у Л.С.Пархімовіча. Не, сёння Леанід Сцяпанавіч не працуе ў полі з ранку да вечара. У "Прагрэсе" — паўтара дзесятка работнікаў, два трактары, збожжаўборачны камбайн, аўтамабіль, бульбасаджалка, капалка, сеялка, плугі, бароны.

Л.С.Пархімовіч, калі не лічыць бухгалтара, — уся адміністрацыя калектыву ў адной асобе: кіраўнік і эканаміст, галоўны аграном і інжынер.

Але ў "Прагрэсе" ніхто і не думае аспрэчваць лідэрства Леаніда Сцяпанавіча. Бо менавіта ён сваёй энергіяй, ініцыятывай нарадзіў яго, на ногі ставіць. Пачынаў з участка не самай лепшай якасці: раўняў яго, знішчаў хмызняк. Зямля для яго была не мачахай. Бо нарадзіўся ў вёсцы. Ад бацькоў, праз уласныя рукі пазнаў многія сялянскія сакрэты. Таму пачаў збіраць той жа грэчкі да 15 цэнтнераў з гектара. Больш, чым калгаснікі і суседзі-фермеры. Ды і сабекошт яе ў параўнанні з іншымі быў ніжэйшы. Бо ў "Прагрэсе" берагуць кожны грам паліва, кожную рабочую хвіліну. Напрыклад, механізатар Уладзімір Міхнавец, калі патрабуецца, можа перасесці з камбайна на трактар, адтуль — за руль "МАЗа".

Ад рэалізаванага ўраджаю атрымлівалі нядрэнную выручку. Але — восенню. Грошы ж неабходныя круглы год. Значыць, дадатковыя крыніцы даходу шукаць трэба. Пабудаваць памяшканне для свіней, бычкоў, курэй, гадаваць іх на ўласных кармах — гэта ў першую чаргу. Што за сялянская гаспадарка без мяса, малака, яек? У свой час Леанід Сцяпанавіч працаваў на пілараме, а Старадарожчына багатая лясамі. І "Прагрэс" у райцэнтры арганізоўвае невялікі цэх па апрацоўцы драўніны, назапашвае з сотню кубаметраў бярвення. Будаўнічыя матэрыялы дарагія? Можна стварыць канкурэнцыю. І фермерская гаспадарка з мясцовых матэрыялаў пачынае выпускаць керамзітабетонныя блокі, якія па надзейнасці мала ўступаюць бетону. Ніхто ў раёне не вырабляе калодзежныя кольцы? Яны ліквідуюць гэты прабел. Ёсць уласныя матэрыялы, значыць, можна паспрабаваць сілы ў будаўніцтве. І "Прагрэс" узводзіць дом сядзібнага тыпу ў калгасе "Палажэвічы". Адначасова вырабляе мазаічныя помнікі. Сваю прадукцыю прадае праз уласны ларок.

Адным словам, Леанід Сцяпанавіч з таварышамі абвяргаюць меркаванне, быццам прыбытак можа прыносіць толькі "купі-прадай". Зарплата ў "Прагрэсе" даволі высокая, выплачваецца рэгулярна. Расшыраецца матэрыяльная база гаспадаркі. Адначасова яна так ці інакш дапамагае многім жыхарам горада, раёна выжыць ва ўмовах эканамічнага крызісу.

"Нічога новага — такія, як Л.С.Пархімовіч, сёння ёсць у кожным раёне!" — скажа хтосьці. Правільна, ёсць. І гэта вельмі добра. Значыць, на зямлі нашай вырастаюць гаспадары новай фармацыі, энергічныя, прадпрымальныя, дбайныя.

А з імі нараджаюцца і новыя надзеі на лепшы лёс для ўсіх нас.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ. Старадарожскі раён.*

# І РУБЛЁМ НЕ КОЖНАГА ВЫЦЯГНЕШ

## з калектыву, якім кіруе прараб Генадзь Налетка

ПРАРАБ быў прыемна здзіўлены, калі ў дзень галалёду (адбылося гэта 15 лістапада) усе рабочыя прыбылі на будоўлю без спазнення. Між іншым, у многіх арганізацыях людзі прыпазніліся на некалькі гадзін, а некаторыя і наогул не з"явіліся на работу, той-сёй нават трапіў у бальніцу. Пэўна, такі дружны выхад нічым іншым не растлумачыш, як імкненнем не падвесці сваіх таварышаў па працы.

Работа ў іх, бадай, адна з важнейшых на будоўлі. Вядома, і для мантажу будынка патрэбна высокае майстэрства. Але ж апошняе слова за імі, аддзелачнікамі з БУ-67. Яны ж абавязаны паказаць кватэру з лепшага боку. Гэта значыць, пакласці падлогу і шпалеры, афарбаваць сцены, выканаць іншыя работы так, каб навасёлец нічога не перарабляў.

Згадзіцеся, задача няпростая. І ўсё ж яна па плячы людзям Налеткі.

Зараз яны заканчваюць блок бытавога абслугоўвання па вуліцы Якубава ў мінскім мікрараёне Серабранка. Прыйшлі сюды сёлета ў маі. І, як заўсёды, адразу ж горача ўзяліся за работу. Аднак неўзабаве былі вымушаны прытармазіць, паколькі ў заказчыка — упраўлення камунальнага будаўніцтва Мінгарвыканкома — скончыліся грошы. Таму з дазволу гарадскіх улад фінансаванне ўзяла на сябе вядомая ў рэспубліцы фірма "Лада ОМС". З умовай, што будзе выкарыстоўваць гэты будынак па свайму меркаванню. Відаць, жыхарам бліжэйшых вуліц прыйдзецца расстацца з марай аб камбінаце бытавога абслугоўвання.

— Што ж зробіш, — зазначае прараб Генадзь Міхайлавіч Налетка, — хто плаціць грошы, той і заказвае музыку. Для нас галоўнае — стабільная праца людзей і іх добры заробак. Калі ёсць сродкі — і патрэбныя матэрыялы знаходзяцца, і затрымак з зарплатай амаль не бывае. Такі час настаў, што на выдзяленне грошай з дзяржаўнага бюджэту няма чаго спадзявацца. Тут і выходзяць на першы план камерцыйныя структуры. Аналагічны выпадак і з прадуктовым магазінам па вуліцы Несцерава. Цэлы год ён быў "замарожаны" — не хапала грошай. Зараз будаўнічыя работы пачаліся, бо ўсе фінансавыя расходы ўзяла на сябе багатая фірма.

У "бытоўку", дзе мы размаўляем з Генадзем Міхайлавічам, заходзіць яшчэ адзін прараб — Васіль Сцяпанавіч Пруднікаў з будаўнічага ўпраўлення № 5 трэста № 1. Яго людзі вядуць тут тынкавальныя і сталярныя работы. Пачуўшы, аб чым гутарым, адразу ж уключаецца ў гаворку:

— У мікрараёне Малінаўка два гады стаяў недабудаваны дзіцячы сад. Гарадскія ўлады аддалі яго пад магазін камерцыйнай фірме. Хутка снег зацярушыць "замарожаныя" школы і сады ў іншых мікрараёнах Мінска. Прычына адна — у гарадской "кішэні" гуляе вецер.

Як бачым, камерцыйныя фірмы з ахвотай фінансуюць аб"екты, ад якіх у хуткім часе можна атрымаць выгаду. Але штосьці не чуваць, каб яны дапамагалі пабудаваць дзіцячыя сады, школы, іншыя ўстановы.

— Ёсць над чым задумацца ўладам беларускай сталіцы, — заўважае галоўны інжынер БУ-67 Генадзь Іванавіч Навумовіч. — Становішча з будаўніцтвам трывожнае. У параўнанні з мінулым годам аб"ёмы работ сёлета знізіліся ў нас прыкладна на 15 працэнтаў. Гэта вядзе да падзення дысцыпліны на будоўлях, людзі звальняюцца. Многіх вабіць магчымасць уладкавацца на працу ў Польшчы, Германіі, Прыбалтыцы, Расіі.

А як справы ў калектыве, які ўзначальвае прараб Налетка? Гэтае пытанне не збянтэжыла Генадзя Міхайлавіча.

— Пачну з сябе, — сказаў ён. — Мне шмат было выгадных прапаноў, але адмовіўся. Як кажуць, прыжыўся на адным месцы — тут раблю з 1975 года. Пасля заканчэння вучылішча спасцігаў майстэрства маляра, потым быў лінолеумшчыкам, майстрам... З 1989 года працую прарабам. Сарвацца адсюль і пайсці ў будаўнічы кааператыў мне асабіста вельмі цяжка. Да таго ж у падобных фірмах бывае і шмат невукаў. Нядаўна прыйшоў да нас з кааператыва тынкоўшчык. Даў яму заданне затынкаваць сцяну, а ён, аказваецца, наогул не ўмее гэта рабіць. А іх жа там, куды мяне запрашалі, нямала. Дарэчы, ад нас у пошуках доўгага рубля падаліся ў камерцыйныя фірмы толькі нізкакваліфікаваныя рабочыя.

Мне захацелася пагутарыць з тымі, хто не спакусіўся на салодкі пернік і працуе зараз на аб"екце. Таццяна Віктараўна Пуцеева, Галіна Уладзіміраўна Анісімава, Ірына Мікалаеўна Катлоўская на ўсе мае пытанні з усмешкайківалі галовамі, згаджаючыся з каментарыямі прараба.

Пасля работы маляроў кожны пакой становіцца непазнавальным. Яны робяць іх блакітнымі, жоўтымі, аранжавымі.. Уяўляю, з якім настроем тут будуць жыць людзі. І ўсё дзякуючы руплівай працы дзяўчат.

А што за прыгажосць ствараюць мазаічнікі, хаця ў іх пад рукой толькі рознакаляровыя каменьчыкі і звычайны раствор. Моўчкі, я б сказаў, задумліва выпісваюць узоры Канстанцін Іванавіч Дасюкоў і Дзмітрый Аляксеевіч Сапегін. Не мастакі яны па прафесіі, а чараўнікі хараства і прыгажосці. Іх бы любы кааператыў, як кажуць, з рукамі адхапіў. Ды дзе там — не хочуць пакідаць свой калектыў, даражаць ім.

— Для мяне галоўнае, — гаворыць Дзмітрый Аляксеевіч, — не рублі, а людзі, з якімі працую. Яны даражэйшыя за грошы.

Не магу не пагадзіцца з ім. Часта даводзіцца чуць аб тым, што вось распаўся кааператыў. Ясна чаму — ён складаецца з "разнашэрсных" людзей, якіх аб"ядноўвае не пачуццё адказнасці за сваю справу, а доўгі рубель. І калі няма майстэрства і таго ж сумлення, дык наспех выкананая работа рана ці позна дае аб сабе знаць. Тады ніхто не пажадае заключаць з такімі "спецыялістамі" дагавор.

Разважалі мы аб гэтым з будаўнікамі разам з Генадзем Міхайлавічам Налеткам і прыйшлі да адной высновы: нельга ў пагоні за рублём губляць самае галоўнае — свой рабочы гонар, сяброўства, узаемаразуменне. Менавіта такія якасці і цэментуюць калектыў. Вось чаму невыпадкова ў дзень галалёду мае субяседнікі ўсе як адзін прыбылі на работу своечасова. Гэты факт гаворыць аб многім.

*Аляксандр ГРАДЗЮШКА, студэнт факультэта журналістыкі БДУ.*

